# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1622) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 14 ЧЭРВЕНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Сямяцічы. Плошча Вызвалення. Мал. Уладзіслава Петрука.

## БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ У СЯМЯЦІЧАХ

У апошняй дэкадзе мая Сямяцічы святкавалі свае Дні культуры, ужо шосты раз. Яны былі адметныя тым, што наладжана Дзень беларускай культуры, які адбыўся 22 мая. Адразу трэба сказаць, што заслуга ў гэтым мясцовых дзеячоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое няблага ўмацавала сваю дзейнасць у горадзе Сямяцічы.

З нагоды Дня беларускай культуры ў Сямяцічах, былі запрошаны сюды пісьменнікі „Белавежы“ і беластоцкі самадзейны калектыў „Каласкі“, які даў канцэрт у тутэйшым доме культуры (потым — у Чорнай Сярэдняй). Канцэрт прайшоў з поспехам, як гэта зазвычай цяпер усюды ў нашым краі, дзе з'яўляецца на сцэне беларуская песня і мастацкае слова нашае. З не меншай удачай адбыліся аўтарскія сустрэчы „белавежцаў“ Алеся Барскага, Сакрата Яновіча, Васіля Петручука. Яны сустракаліся з вучнямі і моладдзю, а пасля, увечары, з дарослымі. Настрой сустрэч быў непасрэдны, характарызаваўся вялікай цікавасцю да беларускай нацыянальнай культуры і гісторыі. Барскі падпісваў свой зборнік вершаў „Ббізкасць далёкага“, Яновіч — „Беларусь, Беларусь“ і „Сярэбраны яздок“ у польскім перакладзе, а Петручук — польскамоўны варыянт „Пожні“ (па-беларуску гэтая кніжка ўсё яшчэ друкуецца).

Кіраўнікі мясцовых улад сваёй прысутнасцю на шматлікіх імпрэзах гэтага Дня беларускай культуры прыдавалі ім грамадскага аўтарытэту. „Белавежцы“ былі прыняты ў Гарадскім камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі, у якім адбылася сяброўская гутарка з імі. Па прыкладу падобных мінулагодніх Дзён — сёлета другі Дзень беларускай культуры будзе ўжо пастаянным элементам Дзён культуры ў Сямяцічах, як важны акцэнт у сужыцці польскага і беларускага грамадстваў у гэтым старонні.

**С. Я.**




### ІНЖЫНЕРЫ, АД ЯКІХ СОРАМ

Можа і не зусім гэта добра, калі ў чалавека раптоўны характар? Што падумае, тое і скажа ён, а яшчэ і напіша возьме. Такім чалавекам і я. Пра гэта ўжо даўно ведаюць у „Ніве“ і разумеюць мяне.

І цяпер ізноў пішу я ў рэдакцыю не вельмі каб спакойна: прачытаў адгалоску М. Махнацкага „Рабіць на гультаёў“, змешчаную ў дваццаць першым нумары нашага часопіса. Ну, Махнацкі той перабаршчыў, дзе толькі змог, і напісаў чорт ведае што! Я ўжо не ведаю, каму тут верыць: Варшаве ці Махнацкаму? Варшаўскія публіцысты, відаць, дурняў з нас рабілі, пішучы, што інжынераў у Польшчы куды больш нават, чымсьці ў Заходняй Нямеччыне... А тым часам даведваюся я ад Махнацкага, што якраз наадварот усё тут. Я ўжо быў падумаў, ці Махнацкі не наблытаў, бо можа палічыў ён тых інжынераў у абсалютных ліках, а не прапарцыянальна насельніцтву, скажам, колькі інжынераў на тысячу чалавек у іх і ў нас...

Я паважаю людзей з інжынерскім званнем, але — выбачайце за шчырасць — не магу паважаць такога інжынера, які, сам будучы з беларусаў, адхрышчваецца ад усяго беларускага, а яшчэ і гыркне, выскаліўшыся, на кагосьці, хто азвецца да яго па-беларуску! Такі інжынер — гэта мне не інжынер, бо сапраўдным інжынерам быць — гэта не толькі машыну зразумець ці мост які пабудаваць умець, але і культурным чалавекам быць. Якая ж можа быць размова пра культурнасць, калі лічыцца ёю пагарда да роднага, да матчынага?! Гэта кпіна з культурнасці, маральны бандытызм!

Пане Махнацкі, а ці заўважылі вы, што бываюць у нас і такія інжынеры, якія свае інжынерства здабылі хабарамі, „падмазваннем“ на палітэхніках, усякім круцельствам, не навукаю і не інтэлігентнасцю? Ой як часта я гэтакіх бачу і чую, аж гідка робіцца! І гладка праходзяць яны ўверх па службе, насабачыўшыся раней, і займаюць пасады, не даючы праходу сапраўды таленавітым. Гэта та-

(Працяг на стар. 4)

ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

## ДАЛЁКА АД ДОМУ

Было іх разам каля 200 чалавек. Вучні беластоцкіх і падбеластоцкіх падставовых школ, значыць, дзеці ва ўзросце недзе ад 9-10 да 14-15 гадоў. Палякі, беларусы, рускія, яўрэі. Адным словам, поўны інтэрнацыянал.

Пытаў я ў колішніх „каракулінцаў“: як ім жылося, ці не здараліся міжнацыянальныя канфлікты?

Найбольш аўтарытэтным здаўся мне адказ цяперашняга палкоўніка Рамуальда Зайкоўскага:

— Найдаўжэй жылі мы ў Каракуліне. Гэта прыўральскі раён Савецкага Саюза, тэрыторыя Удмурцкай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, але той яе паўднёвы куток, дзе збягаюцца межы Татарыі, Башкірыі і Пермскай вобласці. І ўявіце цяпер нас, дзяцей з Беласточчыны, закінутых у гэтую шматнацыянальную сумесь. Школа ў нас была агульная, каракулінская дзесяцігодка. Вучылі, вядома, па-руску. Размеркавалі нас па класах і кінулі, як кажуць, на глыбокую ваду. Спраўляйся, як патрапіш. Давялося паскораным тэмпам засвойваць рускую мову. Ніхто нас да таго не прымушаў, ніхто не аб'яўляў спецыяльных загадаў. Жыццё і штодзённыя патрэбы прадыктавалі неабходнасць выдатнага ведання гэтай мовы. Памятаю, што пасля першага года нашага прабывання на берагах Камы мы карысталіся рускай мовай не горш ад мясцовых равеснікаў. І спявалі, і гулялі, і сварыліся і думалі на гэтай мове.

Тут мне ўспомніўся эпізод з жыцця адной дзяўчынкі, цяпер ужо сталай, пастарэлай жанчыны, якая таксама правяла вайну ў Каракуліне. Між іншым, яна мне расказвала:

— Вось вярнуліся мы ў Беласток. Тут нас вельмі ўрачыста сустракаюць, нейкі аркестр грае прывітальныя маршы, а я ў натоўпе людзей раптам заўважаю свайго бацьку. Закруціліся слёзы ад радасці і хвалявання. *„Папенька! Папенька! Я — здесь!“* — крычу на ўсё горла. Проста забылася, што я ўжо ў Польшчы, што мой бацька — паляк і я сама таксама — полька. На працягу гэтых чатырох гадоў мы проста так прывыклі да рускай мовы, што ўжо не лічылі яе чужой. Лягчэй нам даводзілася думаць і паразумевацца на гэтай мове, чымсьці на сваёй роднай.

(Працяг на стар. 4)

## ПОГЛЯДЫ

### MORZE ЯК МОРА

Гэта няпраўда, што каб быць беларусам і то на Беласточчыне, дык не трэба двухмоўных надпісаў назваў вуліц, мясцовасцяў, ці нават устаноў. З гэтым так, як калі б хто казаў, што дзеля веры ў Бога не трэба храмаў, бо сама вера знаходзіцца ў сэрцы.

Сітуацыя, у якой знаходзіцца беларус у Польшчы, ёсць сітуацыяй як быццам падвойнага роду: ён жыве ў сябе і не ў сябе. У сябе — таму, што нарадзіўся ён у беларускай мясціне на тэрыторыі Польшчы, гаворыць па-беларуску, думае па-беларуску, вучыцца беларускай мове, чытае беларускую „Ніву" і, ад часу да часу, беларускую кніжку; жыццё яго праходзіць пераважна ў беларускім асяроддзі, сярод беларускіх знаёмых і гэтак далей. Да гэтага трэба дадаць рост беларускай нацыянальнай свядомасці, не толькі дзякуючы „Ніве", але таксама і Беларускаму таварыству, і беларускім радыёперадачам шмат у чым мы павінны быць удзячнымі ў сэнсе беларускай свядомасці. Так выглядае нашае беларускае жыццё тут у другой палове васьмідзесятых гадоў.

Жыве наш польскі беларус як бы не ў сябе, а як бы ў чужой краіне, якая дала нейкі прытулак беларусам... Так можа падумаць кожны нацыянальна свядомы беларус, хоць — з другога боку — ведае, што Польшча — гэта наша айчына, гэта наша родная дзяржава. Дык чаму ж мы, беларусы, павінны адчуваць сябе часта, як чужаземцы якія, бо дзяржава наша не абараняе інтарэсаў беларускай нацыянальнай культуры? Нашы справы выглядаюць так: хочаш, беларусе, развіваць сваю культуру, дык сам як сабе хочаш развівай, твая гэта справа; хочаш навучыць сваіх дзяцей беларускай мове, дык сам крычы і дамагайся таго, запісвай іх на ўрокі гэтай мовы, твая справа; хочаце вы, беларусы, будаваць беларускі музей, дык будуйце сабе, гэта ж не справа нашай дзяржавы. І так без канца. А чаму, запытаю, развіццё беларускай культуры не можа быць дзяржаўнай справай, а толькі як бы прыватнай? Мы ж — грамадзяне Польскай Народнай Рэспублікі, і справы нашага тут існавання не могуць быць абыякавымі нашай роднай уладзе. Так я лічу, думаю: маю права так лічыць.

Думаю, што калі беларусы высоўваюць патрабаванне двухмоўных шыльдаў і дарожных знакаў, дык сустракаецца яно проста з незразуменнем з боку адказных асоб, выконваючых дзяржаўную ўладу, пачынаючы ад гміннага начальства.

Я стаўлю пытанне начальнікам гмінаў Гайнаўка, Бельск, Нараўка, Нарва, Кляшчэлі, Дубічы-Царкоўныя, Чыжы, Орля і ўсім іншым на тэрыторыі беларускай мовы на Беласточчыне: скажыце мне, якія законы ці распараджэнні вышэйшых улад не дапускаюць увядзення двухмоўя, вядома, з польскай мовай на першым месцы? Бо — калі няма такіх законаў, дык неда-

**(Працяг на стар. 11)**

## НА МЯЖЫ

## АБ БЕГАХ

Думаю, што такой тэмы фельетона, як сённяшняя, не спадзяваўся ад мяне ніхто. Так, буду гаварыць аб хуткім перабіранні нагамі, значыць — аб бегу. І то не тады, калі ад кагосьці ўцякаем, або калі каго-небудзь гонім, а так сабе, бег па сваёй волі. Спытаеце — навошта? Адкажу — для здароўя.

Калі я ўвогуле ў жыцці бегаў? Зразумела, у дзяцінстве. Тады, як вядома, бегаем без патрэбы і сэнсу. Бегаем проста таму, што хочацца і ўсё. Пазней бегалася за каровай ці за іншай жывёлінай. Сёння я і мне падобныя падбягуць крыху да аўтобуса ці на цягнік або з пакоя ў кухню, калі пачуем, што там закіпела малако.

А тым часам у ЗША, у Савецкім Саюзе і многіх іншых краінах штодзённа бегаюць мільёны людзей. І бегаюць не толькі спартсмены, але людзі розных узростаў, у тым і сямідзесяці- і васьмідзесяцігадовыя.

У мінулым годзе я быў амаль паўгода ў Савецкім Саюзе. Часта наведваў знаёмага, які жыве ў Мінску каля рэчачкі, паўз якую зроблена асфальтная 1200-метровая сцежка для бегаў. Не раз я ўглядаўся, як па гэтай сцежцы ў розную пару дня і вечара бегалі маладыя і старыя людзі. Мой знаёмы, былы спартсмен, дзесяткі разоў намаўляў мяне, каб мы таксама пабеглі. Я як мог, так выкручваўся. Аніяк не мог сабе ўявіць, што я, старэйшы чалавек, вазьму і раптам пабягу. Знаёмы, аднак, аказаўся чалавекам упартым. Купіў мне спартыўны касцюм і боты і ў канцы канцоў пад канец мая мы пабеглі. Ведаючы, што асфальтная дарожка мае 1200 метраў, я пастанавіў яе перабегчы за адным махам. Якім вялікім было маё здзіўленне, калі, адолеўшы 150—200 метраў, адчуў, што задыхаюся і далей бегчы ўжо не магу. Здавалася мне, што грудзі мае праз момант разарвуцца і я ўпаду. Дзякуючы выключнай мабілізацыі, удалося мне прабегчы палову дарожкі, гэта значыць, 600 метраў. Крыху аддыхаўшыся, зрабілі мы на прыладах салідную гімнастыку і пайшлі мыцца і снедаць. Увесь дзень я сябе адчуваў досыць пагана. Назаўтра, аднак, мы ізноў пабеглі і на гэты раз прабеглі 900 метраў. На трэці дзень прабеглі 1200 метраў і маё самапачуццё значна, значна палепшылася. Чацвёртай раніцы прабеглі два кругі, гэта значыць 2400 метраў, а пятага два з паловай кругі — роўна 3000 метраў. І тут усё спынілася. Я мусіў выехаць на некалькі дзён з Мінска і, вярнуўшыся, болей ужо не бегаў. Не бегаў і пазней, бо на пачатку ліпеня вярнуўся ў Польшчу і тут не магло нават быць гутаркі аб бегах.

Хачу, аднак, сказаць, што прабегшы 3000 метраў і зрабіўшы салідную гімнастыку, я адчуваў сябе, як гэта часта гаворыцца, як малады бог. Калі ішоў па вуліцы, дык мне здавалася, што маё цела важыць не 85 кг, але прынамсі напалову меней. Зусім другім стала дыханне, паявіліся бойкія рухі рук і галавы, адляглі ўсякія болі і, наколькі не памыляюся, паправіўся нават мне зрок. Адным словам, як бы другі раз нарадзіўся я на свет і з пажылога чалавека стаўся зусім маладым.

Зразумела, што да сённяшняга дня я думаю аб тым, як пачаць бегаць. З другога боку агортвае мяне сорам, калі падумаю, што мог бы пачаць бегаць у Бандарах. Калі б так сталася, дык напэўна многія сказалі б, што Баршчэўскі звар'яцеў, і не ведаю, ці не выклікалі б хуткую медыцынскую дапамогу.

А бегаць, дарагія чытачы, трэба: чалавечы арганізм патрабуе бегу. Зразумела, што ў меншай ступені патрабуе яго селянін, які штодзённа набегаецца ўдосталь, выконваючы розныя работы. Але для нас, так званых інтэлігентаў, якія штодзень сядзяць на працягу многіх гадзін нерухома, бег абсалютна неабходны. Колькі чалавек з нас мае лішні тлушч, абмежаваныя рухі рук, ног, галавы? Зразумела, што такі спосаб жыцця моцна адмоўна адбіваецца і на патэнцыі... і на разумовай актыўнасці. Толькі скажыце мне, як перастаць саромецца, як устаць, незалежна ад пары года і ад тыпу пагоды, устаць і прабегчы некалькі кіламетраў. Можа хтосьці сказаць: а дзе ж у нас бегаць? Дзе тыя асфальтныя дарожкі? Справа ў тым, што дарожкі пажаданыя, але не неабходныя. Бегаць можна ўсюды, каб толькі была адпаведная воля і ахвота. У іншых краінах бегаюць энтузіясты па нармальных вуліцах, сярод штодзённага натоўпу і нікога гэта не здзіўляе. Усё ў канцы канцоў залежыць не ад іншых, а толькі ад нас. І нават калі б нехта, пабачыўшы бегаючага чалавека, пастукаўся пальцам па ілбе, дык няхай сабе стукае, у гэтым няма ніякай бяды. Бегаем не для іншых, а толькі для саміх сябе.

Звяртаюся да ўсіх, да мужчын і жанчын, да маладых і тых з жывоцікамі: бегайце, або лепш сказаць — бегайма. Памятайма аб тым, што бег — гэта найлепшы спосаб на тое, каб жыць весялей і жыць даўжэй.

**Алесь Барскі**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ПАЛЕСКІ БУКВАР

Аб існаванні гэтага буквара ўпершыню з'явілася інфармацыя шэсць год назад. Пошук яго адкрываў усё новыя і новыя забытыя і паўзабытыя старонкі нашай гісторыі і перш за ўсё гісторыі славеснасці старажытнага палескага краю. Аказваецца, яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ствараліся граматыкі і буквары палескай гаворкі. Пра адну з такіх граматык, напісаную ў 1875 годзе Платонам Цiхановічам на падставе гаворкі вёскі Лунін, расказаў у сваёй кнізе „Адчыніся, таямніца часу" Г. Каханоўскі. Аб конкурсах на лепшы палескі буквар у 1861 годзе пісала варшаўская „Gazeta Polska". М. Доўнар-Запольскі ў сваім зборніку „Песні пінчукоў" на дваццаці дзвюх старонках дае кароткае граматычнае апісанне пінчуцкай гаворкі. Ф. Стаўровіч у „Виленском сборнике" за 1869 год піша аб мове і справах іванаўскіх лабараў — збіральнікаў грошай на будаўніцтва цэркваў... Гэта толькі маленькая часцінка таго, што нам вядома.

Палескі буквар. Гэта невялікая кніжачка, у якой сорак дзве старонкі. Увесь тэкст падручніка для дзяцей надрукаваны лацінскімі літарамі, а тытул і прадмова — яшчэ і кірыліцай. Матывуючы свой выбар лацінскай графікі, аўтар піша: „Хто ведае лацінскія літары, таму лягчэй і замежнай мове навучыцца." Але ў сваім выбары ён не катэгарычны: „Вы, браты палешукі, выбірайце самі — якія літары вам больш падабаюцца, тымі вучыцеся чытаць і пісаць."

Выпушчаны буквар у 1907 годзе (месца выдання не пазначана на кнізе). Гэта час інтэнсіўнага фарміравання агульнанацыянальнай сучаснай беларускай мовы. Час, калі на ролю нацыянальнай сучаснай беларускай мовы прапаноўвалі сябе самыя розныя дыялекты Беларусі — у тым ліку і дыялект Палесся. Але ў той жа час носьбіты палескага дыялекта ўжо тады, у пачатку нашага стагоддзя, разумелі, што іх мова вельмі своеасаблівая. Аўтар буквара ў прадмове так і піша: „Па гэтым буквары павінны вучыцца чытаць усе палешукі, таму што іх мова крыху адрозніваецца ад украінскай і беларускай".

Пошукі палескага буквара доўгі час былі беспаспяховымі, таму што шукалі буквар пад назвамі „яцвяжскі", „палескі", „паляшуцкі", „гедунскі", „пінчуцкі". А ён аказаўся „схаваны" пад „русінскі"! Адкуль такі тэрмін? Русіны, як вядома, — гэта невялікі народ, які жыве ў Югаславіі. А яшчэ русінамі называюць цяпер іншы раз заходніх украінцаў. Якія ж адносіны мае гэта назва да палешукоў? Магчыма, тлумачэннем выкарыстання тэрміна „русінскі" прымяняльна да тэрыторыі Палесся з'яўляецца тое, што Берасцейшчына была калыскай уніяцкай рэлігіі, якую ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя яшчэ называлі і русінскай. Русінскай таму, што першапачаткова яна стаяла за аднаўленне аблічча ўсходнеславянскай рэлігіі часоў хрышчэння Кіеўскай Русі, часоў, калі хрысціянская царква была адзіная і не дзялілася на каталіцкую і праваслаўную. Магчыма, аўтар буквара быў уніятам, таму і назваў палескі дыялект русінскім?! Зрэшты, канчаткова адказаць на гэтае пытанне можна будзе толькі тады, калі стане вядома прозвішча аўтара, яго рэлігійная і палітычная прыналежнасць. Але кім бы ён ні быў, ужо цяпер ясна адно: ён сапраўдны патрыёт свайго краю. А ўлічваючы, што ў той час выдаць кнігу мог толькі вельмі багаты чалавек, можна сказаць: буквар на народнай мове характарызуе аўтара як чалавека прагрэсіўнага і перадавога.

**Мікалай Шаляговіч**
(„Голас Радзімы")

# ЦЯЖКА, АЛЕ РАБОТА ІДЗЕ

У бельскім ПОМе вялікі рух з рамонтамі машын. Ужо два гады будзе як дырэктарам тут Іван Семянюк, які заняў гэту пасаду ў выніку конкурсу.

Іду я да дырэктара на кароткую гутарку для „Нівы“.

— Скажыце, калі ласка, як вам ідзе работа?

— Работы не бракуе, — кажа І. Семянюк, — хоць усяляк з ёю бывае. У нашым ПОМе ўсіх работнікаў 162 чалавекі. За мінулы год выканалі работ на суму 388 мільёнаў злотых. Гэта вельмі многа, калі параўноўваць з мінулымі гадамі. Чыстага даходу дабіліся мы на суму сарака двух мільёнаў. Удалося шматшто палепшыць, як у самой прадукцыйнасці, так і сацыяльнай сферы, каб людзі не толькі адпаведна працавалі, але і мелі адпаведныя варункі дзеля добрай працы. Думаем яшчэ адкрыць спажывецкі бар для рабочых, каб не трэба было з хаты прыносіць з сабою ежу, і каб было дзе выгодна і чыста паснедаць у час перапынку.

— Што вам найбольш дакучае?

— Найбольш дакучае тое, што ўсё цяжка і цяжка з запаснымі часткамі, акурат з тымі наймацней патрэбнымі. Займаемся не толькі рамонтамі машын, але і ўзяліся мы будаваць водаправоды, напрыклад у Станцыі-Нурэц за суму васьмідзесяці мільёнаў злотых. Вырабляем і ўсялякія краты для фабрык і капальняў. 95 тон гэтых кратаў робім для Кубы.

— Заслужаныя людзі працы?

— Маем добрых механікаў, якія працуюць у нашым ПОМ-е ўжо больш трыццаці гадоў. Гэта: Павел Рыбачук, Яўген Юрчук, Яўген Капытка, Дзімітры Карпюк, Аляксандр Цар, Тадэвуш Асмульскі, Андрэй Лукашук, Аляксей Ваўранюк, Міхал Траянчук, Надзея Вышкоўская.

Гутарыў **А. Гаўрылюк**

# ЗАТРУБІЛІ ТРУБАЧЫ

У лістападзе 1976 года быў створаны духавы аркестр чыгуначнікаў у Чаромсе. Чаромха — вялікі рабочы чыгуначны цэнтр і такі свой аркестр быў тут вельмі патрэбны. Знайшліся людзі, якія хацелі пасля працы хадзіць на рэпетыцыі. Яны памалу, але настойліва вучыліся іграць. Спачатку даводзілася нялёгка. Найбольш клопатаў было з музычнымі інструментамі. З дапамогай у гэтым паспяшалася прафсаюзная рада паравознага дэпо ў Чаромсе, якой кіраваў Юзаф Дубковіч. З запалам падтрымаў ініцыятыву, таксама, тадышні сакратар камітэта партыі Лявон Ляскоўскі і цяперашні дырэктар клуба „Калеяж“ Мікалай Гарадкевіч. Згодная падтрымка гэтых людзей памагла пераджыць першыя цяжкасці і пайсці ўперад.

Знаходзіліся інструменты, прыходзілі новыя людзі і так рос і мацнеў чаромхаўскі чыгуначны аркестр. Пачаліся сістэматычныя заняткі і то ў такім тэмпе, што ўжо на 1 мая 1977 года аркестр зайграў першыя маршы.

З таго часу ў кожнай урачыстасці ён прымаў удзел і з ўсё багацейшым рэпертуарам.

Хто яны, чаромхаўскія музыканты? Свае людзі, чаромхаўскія рабочыя. Працуюць у розным дэпо, станцыі і насычальні. Чаромха: паравозным і вагонным дэпо, станцыі і насычальні.

У духавым аркестры чаромхаўскіх чыгуначнікаў 20 чалавек, і аркестр усё павялічваецца. А цяпер ужо проста ніхто і не думае пра ўрачыстасць не толькі ў Чаромсе, але і ва ўсім раёне, без духавога аркестра. Выступае ён і ў больш далёкіх мясцовасцях.

Ад пачатку і да сёння вядзе аркестр капельмайстар Казімір Блашкевіч, рабочы паравознага дэпо. (вв)



**Адразу хочацца падцягнуцца і пайсці маршавым крокам, калі зайграе духавы аркестр чыгуначнікаў з Чаромхі. На першым плане капельмайстар Казімір Блашкевіч. Фота Тамары Кердалевіч.**

# выказванні

## НІЛ ГІЛЕВІЧ АБ НІГІЛІЗМЕ

Безліч разоў я задаваў сам сабе пытанне: ці можа быць сапраўдным інтэрнацыяналістам і наогул паўнацэнным грамадзянінам нацыянальны нігіліст, які не паважае мову і культуру свайго народа? Я звяртаўся да думак многіх разумнейшых, адукаванейшых людзей свету, але прывяду словы толькі аднаго з іх — аднаго з самых культурных рускіх пісьменнікаў савецкай эпохі К. Г. Паўстоўскага: „Па адносінах кожнага чалавека да сваёй мовы можна зусім дакладна меркаваць не толькі аб яго культурным узроўні, але і аб яго грамадзянскай вартасці. Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчымая без любові да сваёй мовы. Чалавек, абыякавы да роднай мовы — дзікун. Ён шкодаласны па самой сваёй сутнасці. Таму што яго абыякавасць да мовы тлумачыцца паўнейшай абыякавасцю да мінулага, сённяшняга і будучага свайго народа“.

Але ж мы, на жаль, яшчэ нямала плодзім менавіта нацыянальных нігілістаў. Колькі юных маіх аднапляменнікаў уваходзіць у свядомае жыццё нацыянальна несвядомымі, не ведаючы сваёй роднай мовы, не цікавячыся нацыянальнай мастацкай культурай, гісторыяй свайго народа. Натуральна, што менавіта гэтыя нацыянальна бясполыя маладыя людзі ўтвараюць асяроддзе, у якім лягчэй успрымаецца ўсялякая ідэалагічная пошасць, лягчэй расцвітае бездухоўнасць, пошласць, цынізм, фарміруюцца антыпатрыятычныя настроі.

## ВІНШУЕМ ВАСІЛЯ ПЕТРУЧУКА!

Культурныя ўлады беластоцкага рэгіёна нарэшце пачалі прыкмячаць творчыя здабыткі нашых пісьменнікаў і мастакоў. Нядаўна мы пісалі пра ўзнагароду Беластоцкага Ваяводы, якой з вялікай пашанай удастоены мастак Лёнік Тарасэвіч, і ўжо даведваемся, што Васіль Петручук як аўтар „Пожні“ ўшанаваны ўзнагародай дырэктара Ваяводскага аддзела культуры ў Беластоку. Нам прыемна паведаміць пра гэта і, адначасна, ад „Нівы“ павіншаваць Петручука пры такой сімпатычнай нагодзе! Ён — першы з кагорты „белавежцаў“, які ўзнагароджаны менавіта за літаратурную беларускую творчасць. Каб на добры пачатак!

Прыгадаем, што ў наступным годзе будзе трыццатая гадавіна дзейнасці „Белавежы“.

**(ся)**

# ГЛУМ НАД ГАЛАДОЎСКАЙ КУЛЬТУРАЙ

Аж у 1978 годзе, 3 верасня, „Ніва“ пісала, што бібліятэка і пошта ў Галадах змяшчаюцца ў прыватных хатах. Гмінныя ўлады тады адказалі, а як жа, што для гэтых устаноў будуць спецыяльна парамантаваны акуратныя будынкі былой школы. Як вядома, беларусаў нараджаецца штораз менш, і таму трэба зачыняць існуючыя па вёсках школы, а рэшту дзяцей, якая яшчэ нам засталася, вазіць у зборныя школы (дзетак з Галадоў пачалі вазіць аўтобусам у гарадскую школу ў Бельск).

Неяк прагладаючы публікацыі „Нівы“, надумаўся я паехаць менавіта ў Галады і пабачыць, якія вынікі тых даўніх начальніцкіх абяцанак. І пабачыў, што галадоўскай пошце цяпер сапраўды жывецца добра, як у горадзе, нават цэнтральнае абаграванне мае. Горш пашанцавала бібліятэцы, яе лёс не змяніўся за гэтыя, амаль дзесяць гадоў: як была ў нэндзы, так і засталася ў ёй. Гэта тыповы лёс наогул культурных устаноў, бо пра патрэбы культурнай дзейнасці дбаюць у нас заўсёды напаследак, што канчаецца пераважна звычайнай нядбайнасцю. А потым хапае начальнікам сумлення наракаць перад цэлым народам, што дрэнна стаяць справы ў культуры і што людзі перастаюць чытаць нават газеты, а ўсё круцяцца яны вакол матэрыяльных здабыткаў, кладавяцца спаць з курамі і ўстаюць з трэцімі пеўнямі, храпуць перад тэлевізарамі і г.д. Бібліятэка ў Галадах ужо ўвогуле не працуе, бо бібліятэкарка нарадзіла дзіця і, вядома, узяўшы выхаваўчы водпуск, займаецца ім. Цяжка мець прэтэнзіі да яе за гэта, але трэба мець прэтэнзіі да начальства Бельскай гміны за тое, што бібліятэку гэтую пакінула яно ў становішчы нейкай сіраты. Пошта яму важней за бібліятэку, бо за дрэнную працу пошты б'юць з вярхоў па гарбе, а за дрэнную працу бібліятэкі нават сабака не дзяўкне... Вось так.

Галады — пакуль даволі шматлюдная мясцовасць, і дзейнічае тут гурток гаспадыняў. Гэтаму гуртку таксама не соладка. Няма яму дзе арганізаваць свае культурныя заняткі, усякія курсы, як і няма дзе трымаць абсталяванне (напрыклад, посуд). Хацелі галадоўскія гаспадынькі пакарыстацца адным з будынкаў былое школы, але прыслалі ім з гміны „паперу“, што — нельга, бо дах можа заваліцца, гнілы нібы. Але якось не заваліўся той дах, калі пасялілася ў гэтым жа будынку сям'я з леснічоўкі: муж з жонкаю і пяццю дзеткамі займаюць тры пакоі і кухню, а ў двух іншых пакоях сушаць бялізну і зрабілі ўсякія кладоўкі. Справа ў тым, што леснічоўку тую разабралі, а сям'і той не далі дзе жыць, і галадоўскі солтыс — душа чалавек — злітаваўся над імі, пусціў іх у гэты будынак жыць. Зрабілі ўмову, важную да дзесятага мая восемдзесят восьмага года, умову з гмінай, не з солтысам, аказваецца. Значыць, у гэтым будынку можа жыць сям'я, пра якую ніхто па службе бацькі не падбаў, але не можа быць у гэтым будынку ані бібліятэка, ані гурток гаспадынь са сваёй таксама асветнай дзейнасцю. Вось табе і знак бяды для культуры.

**Андрэй Гаўрылюк**

# УВАГА!

21 чэрвеня г.г. а гадз. 10 у Гайнаўскім доме культуры адбудзецца агульны сход членаў **Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея** ў Гайнаўцы. Ад 8 да 9.30 можна наведаць пабудову музея (Паркавая 2).

Запрашаем!

## СЯБРЫНА




### РАЗМОВА З КРЫСЦІНАЙ ГЕРАСІМЧУК

**Міра:** Ой, Крыся, як ты добра і смачнаварыш... А па прафесіі ты — прадаўшчыца. Цяпер на выхаваўчым водпуску, у цябе двое дзяцей...

**Крыся:** Так, мне 27 год, 3 сівыя валасы і дзве дочкі. Марта ў верасні ідзе ў першы клас, а Юстыне — 3 месяцы.

**М.:** Мы сядзім у прыгожым агародчыку, на слаўных Баярах у Беластоку.

**К.:** Гэта дом мае свякрухі Яўгеніі, паўнакроўнай беларускі родам з Заблудава. Я сама з Меляшкоў. Бачыш, жыла б ахвотна ў вёсцы, але мой муж, Раман, не ўмее... нават каня запрагаць!

**М.:** У тваім узросце многа моладзі ходзіць яшчэ самапасам, без сям'і, абавязкаў. Ці не шкадуеш ты часам, што так рана выйшла замуж?

**К.:** Ты лепш і не задавай гэтага пытання. Што закрунула, то і не адкрунеш... (тут нам перабівае Юстынка, якая прачнулася ў калясцы). Гэтая Юстынка маленькая, але крыкучая, з Мартай было зусім інакш. А можа гэта і дрэнна, што такі між імі перапынак — 7 год? (Марта бегае па сцежцы між цвітучымі цюльпанамі, мы заглядзеліся на яе).

**М.:** Незадоўга Баяры разваляць і знікнуць гэтыя цудоўныя агародчыкі, поўныя кветак, парэчак і бэзу...

**К.:** Паставяць блокі, заганяць усіх „баяраў" у адзін. Маладым, можа, усё роўна, але цяжка будзе старым пакінуць гэтыя, у большасці драўляныя, хаткі, у якіх яны столькі пражылі...

**М.:** Табе выгадней было б з дзяцьмі — вада і іншыя выгады...

**К.:** Зімой аж зубы заціскаеш, бегаючы за вадой па хісткай лесвіцы (жывём мы на падстрэшшы) ці выносячы вядро. Але летам колькі дабра, асабліва для дзяцей, з гэтым панадворкам і агародам!

**М.:** Хаця тут амаль цэнтр горада (за плотам высіцца вузкі блок на вуглу вуліц Аградовай і Сланімскай), тут цішыня і вясеннія пахі. А вось і пчала паляцела... Над загонамі раней была фольга...

**К.:** Тут вёў свой „вопытны агародчык" Раманаў брат Вяслаў, які вучыўся ў вышэйшай сельскагаспадарчай школе. Я сама цяпер шкадую, што не пайшла вучыцца ў сельскагаспадарчую школу і што сястру туды не паслалі. Пасля такой школы нават такі невялікі агарод можна прафесіянальна весці. Тут мая парада ўсёй вясковай моладзі: няма чаго марнаваць час у школах, каб толькі пабыць у горадзе. Нам у вёсках патрэбныя добра падрыхтаваныя хлебаробы!

**М.:** Твой бацька захапляецца Мартачкай. У гэтага дзіцяці аграмаднае зацікаўленне сельскай гаспадаркай.

**К.:** Марта патрапіць схапіцца летам а шостай гадзіне, каб завезці з дзедам малако ў злеўню; носіць пустыя малыя конаўкі, дапамагае... (Тут адзываецца Марта: „А мяне ў злеўні ўсе ведаюць!"). Ужо цяпер рыхтуе свой багаж, збіраецца ехаць у вёску і толькі аб гэтым гаворыць. Думаю, што тыя восем гадоў пачатковай школы хутка пройдуць, і пашлём яе вучыцца ў Дайліды ў сельскагаспадарчы тэхнікум. Дзед ужо думае, каб ёй перадаць гаспадарку. Дзеці рассыпаліся па свеце, няма каму пакінуць такую добрую даходную гаспадарку, з трактарам, з усімі машынамі. Пакуль што, пачакае зямля на Марцінья працавітыя рукі.

Гутарыла **Міра Лукша**
Фота **Р. Сянько.**



## З маёй званіцы

### УЦЯКЛІ ДЗЯЎЧАТЫ

Змяніўся час, змяніліся ўмовы жыцця. Адчуваецца прагрэс ва ўсіх дзялянках, у тым і ў звычаях. Калісьці дзяўчына, у якой не было пасагу, мела невялікія магчымасці выйсці замуж. Беспасажныя дзяўчаты аставаліся старымі дзеўкамі, нягледзячы на тое, што былі яны прыгожыя, добрыя і працавітыя. Пасаг гарантаваў мужа.

А цяпер не трэба пасагу для вясковых кавалераў, не трэба нічога, толькі дзяўчаты патрэбны. На жаль, іх няма ў вёсках. Яны паўцякалі і надалей уцякаюць у гарады, уцякаюць з гаспадарак. У фабрыках і прадпрыемствах знаходзяць сабе працу, мо і не заўсёды высокаплатную, аднак жывуць у горадзе.

Хлопцы неяк больш звязаныя са сваім родным домам, са сваёю вёскай. Ім значна цяжэй адарвацца ад сялянскай прафесіі, якая проста ўвайшла ў іхнюю кроў. Яны таксама маглі б кінуць усё і пайсці на працу ў прамысловасці, якая бесперапынна патрабуе рабочых. Аднак многа маладых людзей мужчынскага полу асталося і астаецца на вёсцы пры сваёй традыцыйнай прафесіі. І нічога ім не бракуе, апрача жонак, якіх няма адкуль узяць. На вёсках няма дзяўчат. У вёсцы Рыбалы (Заблудаўская гміна) больш за 40 чалавек нежанатых і некаторыя ўжо і састарэлі кавалерамі. А што сам на гаспадарцы зробіш? Самому даводзіцца праць бялізну, варыць страву ды абрабляць зямлю і займацца жывёлагадоўляй, а гэта аднаму вельмі цяжка. Па гэтай жа прычыне, з-за недахопу жонак, няма на вёсках дзяцей, і перспектыва вясковага насельніцтва даволі сумная. **(мх)**



дэрса. Я таксама збіраўся стаць салдатам, але ўжо не паспеў, — са шкадаваннем адзначае палкоўнік Рамуальд Зайкоўскі. — Суадносіны паміж Савецкім Саюзам і польскім урадам рэзка пагоршыліся, Войска Польскае пакінула тэрыторыю Савецкага Саюза, а я надалей застаўся ў Каракуліне...

Калі я так думаю і пішу пра лёс гэтых дзяцей, якія не па ўласнай волі апынуліся ў глыбіні неабсяжных прастораў Савецкага Саюза, дык адначасова ціснецца мне пад пяро параўнанне з лёсам дзяцей, якія трапілі ў кіпцюры нямецкіх фашыстаў. У асвенцімскім лагеры смерці быў выдзелены спецыяльны сектар для малалетніх вязняў. У Лодзі гітлераўцы наладзілі асобны лагер для арыштаваных дзяцей, дзе за адно слова, вымаўленае па-польску, можна было атрымаць смяротны ўдар палкай. Калі гітлераўцы ачышчалі Замойшчыну ад польскага насельніцтва, дык у многіх бацькоў адабралі дзяцей з выглядам „арыйцаў" і размеркавалі іх сярод нямецкіх сем'яў, зацершы ўсялякія сляды гэтай злачыннай дзейнасці...

Я пытаў у маіх „каракулінцаў": цяпер, калі сталі яны дарослымі людзьмі, як адносяцца да сваёй пабыўкі ў Каракуліне?

— Такі наш лёс, — найчасцей чуў я ў адказ. — Праўда, было там цяжкавата, бо вайна і далёка ад дому, ад бацькоў, але мы засталіся жывымі. І гэта найважнейшае. Мы не былі пад суровай гітлераўскай акупацыяй і не ведаем, што здарылася б з намі, калі б гэтыя чатыры гады давялося нам правесці тут, на Беласточчыне, у бацькоўскіх дамах...

Сапраўды, нягледзячы на ўсе цяжкасці ваеннага часу, „каракулінцам", я б сказаў, шчасце вельмі ж спрыяла. Памерла толькі двое дзяцей. Двое на больш за дзвесце. Райка Кардаш (яна з Заблудава) утапілася ў Каме, але ўжо пасля вайны, калі некаторыя „каракулінцы" вярнуліся ў Беласток. Райка да іх не далучылася, бо яе бацькі рашылі рэпатрыявацца з Польшчы, і яна чакала ў Каракуліне, пакуль яны недзе паселяцца ў СССР. І тады здарыўся гэты няшчасны выпадак. Яшчэ адзін хлопец памёр на сухоты, з якімі ён ужо прыехаў у Каракуліна. Іншыя дзеці часта і вельмі сур'ёзна хварэлі. Мучыла іх малярыя. Асабліва дзяўчынкі расказвалі мне пра свае перажыванні. Найгорш, што вельмі ж скупыя былі пастаўкі хініну. Гэта асноўнае лякарства на малярыйныя дрыготкі. На шчасце, усе выздаравелі. Дакучаў таксама суровы прыуральскі клімат.

— Зімою марозы ў нас даходзілі да 50 і болей градусаў, — сцвярджае Рамуальд Зайкоўскі. — Нават Кама хавалася пад лёдам і можна было катацца па ёй на санях, як па аўтастрадзе...

Забег я занадта ўперад, а трэба было б па чарзе. Дык найперш дзяцей нашых памясцілі каля горада Сарапуль. Гэта раённы горад. Ён таксама знаходзіцца на высокім беразе ракі Камы, крыху болей на поўнач ад Каракуліна. Там у маляўнічым надкамскім куточку быў наладжаны летні дом адпачынку для настаўнікаў. Самуіл Пеўзнер, успамінаючы ў пасляваенныя гады свае перажыванні з беластоцкімі дзецьмі, між іншым сцвярджаў:

— Адбылося сардэчнае спатканне ў Казані. Дзецям наладзілі ўрачысты абед, яны атрымалі падарункі.

Ад сябе дадам, што быў гэта першы добры абед пасля звыш двухтыднёвай вандроўкі іх з Друскенік у прыуральскія мясцовасці. Самуіл Пеўзнер працягвае:

— У Сарапулі дзяцей размясцілі ў папярэдне падрыхтаваных памяшканнях дома адпачынку „Учитель".

І гэта ўсё тады, калі гітлераўцы рваліся ўжо пад Маскву, калі Беласток, а нават і Мінск апынуліся ў руках фашысцкіх акупантаў.

Дом адпачынку „Учитель" не быў прыстасаваны да зімоўкі, і дзеці не мелі дзе працягваць навуку. Энергічны Самуіл Маркавіч, які на працягу чатырох гадоў замяняў гэтай дзетвары іх сапраўдных бацькоў, пачаў рашуча дамагацца, каб мясцовыя ўлады знайшлі для яго падапечных болей прыдатнае месца на зімоўку і далейшае жыццё. Выбралі Каракуліна — ні горад, ні вялікае сяло. А як там было і як жылося, дык аб гэтым ужо іншым разам.

**Віктар Рудчык**





© PDF: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023
© PDF: Kamunikat.org 2023

 

## БЕЛАРУСІКІ

**1983**


Baradulin Ryhor, A nie ma narodów małych (w). — Uczący ojców naszych mowy... (.). Tł. z białor. Tadeusz Chróścielewski. *Nadodrze* 1983, nr 12, s. 9.

Baradulin Ryhor, Drzwi (w). — Warszawa (w). Tł. z białor. Wiesław Rustecki, Piotr Stefanowicz. — Ty (w). Tł. W. Rustecki. *Barwy* 1983, nr 8, s. 1, il.

Bąk Stanisław, Kilka uwag o wpływach białoruskich i litewskich u Melchiora Wańkowicza. *Poradnik Językowy* 1983, z. 9, s. 607—609.

Bergman Aleksandra, Włodzimierz Samojło-Sulima wobec kwestii białoruskiej w Polsce międzywojennej. *Przegląd Historyczny* 1983, z. 4, s. 653—676.

Bryl Janka, Modlitwa. — Wojak. — Smutna bajka. Tł. z białor. Anna Sobecka. *Nadodrze* 1983, nr 12, s. 8. — Nie chcę ja na nich nawet patrzeć... — Pokłon. Tł. A. Sobecka. *Odra* 1983, nr 3, s. 46—47.

Bułyka Aleksander, Zapazyczanyja nazwy tkanin i skur u starabiełaruskaj mowie. *Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego, nr 633. Pracę Językoznawcze* 1983, z. 74, s. 35—49.

Dowda Halina, Stają kołchozy do konkurencji. Z wizytą na Litwie i Białorusi. *Trybuna Ludu* 1983, nr 196, s. 6.

Inwientari magnatskich władienii Biełorussii XVII—XVIII w. Władienije Smorgoń. Mińsk 1977. Rec. Żytkowicz Leonid, *Studia Źródłoznawcze*, t. 28, 1983, s. 250—254.

Janowicz Sokrat, Białoruś, Białoruś. Fragm. książki. *Kontrasty* 1983, nr 2, s. 33—37, nr 3, s. 21—26.

Janowicz Sokrat, Białoruś, Białoruś. Fragmenty książki. *Kontrasty* 1982, nr 2, s.33—38. — Białoruś, Białoruś. Fragm. książki. *Literatura na Świecie*, 1983, nr 11, s. 139—167, il. — Dobroruś, Dobroruś — Fragm. książki. *Więź* 1983, nr 9, s. 25—49.

Jarosz M. R. Piasniar rodnaj ziamli. Życie i twórczość J. Kupały. Mińsk 1982. Rec. Stochel Włodzimierz, *Slavia Orientalis* 1983, nr 4, s. 534—536.

Jurkiewicz Jan, Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Białorusi w latach 1905—1922. Poznań 1983. Rec. Karp Marek J., *Więź* 1983, nr 11/12, s. 183—192.

Kołas Jakub, A tak śpiewa dudka miła. Łódź 1982. Rec. Staniszewski Andrzej, *Kontrasty* 1983, nr 2, s. 41—43.

Koprowski Krzysztof, Miasto w kołchozie. Po obu stronach Bugu. — Tak robią to najlepsi. Kołchozy. Korespondencja z Białorusi. *Życie Warszawy* 1983, nr 182, 189 s. 5.

Kosman Marceli, Historia Białorusi. Wrocław 1979. Rec. Laval Paweł *Acta Baltica — Slavica*, t. 15, 1983, s. 306—309.

Kupała Janka, A kto tam idzie. Łódź 1981. Rec. Staniszewski Andrzej, *Kontrasty* 1983, nr 2, s. 41—43.

Kupała J., Pieśni biełaruskaj wałądar, Mińsk 1981. Rec. Poźniak Telesfor, *Slavia Orientalis* 1983, nr 1/2, s. 181—184.

Łatyszonak Oleg, Spojrzenie z boku. (Praca S. Akiner „Współczesna białoruska literatura w Polsce"). *Więź* 1983, nr 11/12, s. 220—222.

Nieuważrv Florian, Znak nieszczęścia — magnum opus Wasila Bykowa. *Kontrasty* 1983, nr 6, s. 34—37.

Nieuważny Florian, Żołędzie prawdy czyli Polska we współczesnej poezji białoruskiej. *Kontrasty* 1983, nr 2, s. 28—30.

Rahojsza Wiaczasłaŭ, Napisana rukoj Kupały. Mińsk 1981. Rec. Białokozowicz Bazyli, *Slavia Orientalis* 1983, nr 1/2, s. 177—181.

Sałtuk Alek, Gdy byłem mały i wesoły (w). — Morze (w). Tł. z białor. Henryk Szyłkin. *Nadodrze* 1983, nr 23, s. 5.

Suchanek Lucjan, Białoruś — Dobroruś. (Piśmiennictwo Białorusi i jego recepcja w Polsce). *Tygodnik Powszechny* 1983, nr 19, s. 8.

Szreder A. G., Organizacja przemysłu drzewnego Ministerstwa Leśnictwa i Przemysłu Drzewnego Białoruskiej SRR. Tł. I(rena) Gierlińska. *Przemysł Drzewny* 1983, nr 2, s. 14—15.


**Р.С.**



Слонім. Новы жылы мікрараён на паўднёвай ускраіне горада. Фота С. Прасняка.

## ТАК БЫВАЕ...

### ЦАНА ЗАЛЁТАЎ ЖАНАТАГА

— Ведаеце, — кажа старэйшая жанчына, — калі я гляну на Франку, дачку нашай суседкі, дык ажно мурашкі мне па спіне забегаюць! Што ж гэта яна начаўпла? Такая прыгожая, і цяпер яшчэ прыгожая, але бяды на сябе наклікала...

Франка — адна дачка ў бацькоў. Яны давалі ёй усё, чаго яна захацела. Рабіла яна ў горадзе, у краме, і кватэру сваю там мела. Усе хлопцы былі гатовыя скакаць у вагон за ёю, калі выязджала ў горад, а яна і глядзець на іх не хацела.

— Ого, характар трэба мець, каб так абыякава глядзець на хлопцаў, — казалі сяброўкі.

Да Франкі пачаў хадзіць адзін жанаты. Яна не адпраўляла яго. У яго было двое дзяцей, а ёй абы-што. Да яе прыходзіла яго жонка, прасіла, каб яна пакінула круціць з ім. Потым прыходзілі да тае Франкі і жончыны бацькі, і яго бацькі, але яна і вухам не вяла на тое. Аж пакуль Франка не стала цяжарнай ад яго, ад Ваські. І Васька тады кінуў яе. Франка рынулася ў амбіцыю, усім гаварыла, што дзіця будзе не ад Ваські, але ад аднаго хлопца з іншае вёскі. Аднак у суд на аліменты падала яна Ваську, а не каго іншага. Аліменты суд ёй прызнаў, засудзілі іх ад Ваські. І Франка пачала жыць адна, з малым сынам.

Кавалеры часам скажуць да Ваські:

— Як там справы ў цябе, цесць? — і Васька скача да іх біцца за гэтага „цесця". Вядома, кпіна такая завялася.

А Франка зрабілася змеяватай, на кожнага псыкне, не прамаўчыць. І бацькам сваім у гаспадарцы нічагуткі не дапаможа, калі прыедзе да іх, толькі набярэ ад іх сабе ўсяго, чаго захоча і, хвастом крутнуўшы, папрэ назад у горад, у сваю тую кватэру.

Здавалася б, Васька свет завязаў Францы, ды яна і ў галаву таго не бярэ. Ветрае і ветрае, як палятуха якая.

Ваську няма жыцця з жонкаю, жывуць яны цяпер, бы тоїі кот з сабакаю. Усё сварацца. За абы-што, вядома. У такой сварбе ўсенька можа быць прычынаю для лаянкі. А прычына ёсць, і то нямалая: штомесяц пяць тысяч злоты аліментаў трэба плаціць Францы, усё роўна што за акно выкінуўшы грошы! Што ж: нагуляўся-назабаўляўся з Франкаю, дык цяперка плаці з дваццаць гадоў, пакуль сын твой у яе не вырасце і на свой хлеб не пойдзе. Столькі каштуюць залёты жанатага да паненкі.

**Аўрора**

## „НІВА" НАЙБОЛЬШ ПАПУЛЯРНАЯ

Зайшоў я ў бельскі раённы „Рух" даведацца, колькі і якіх газет ды часопісаў прадаюць іх кіёскі пастаянна на тэрыторыі Бельшчыны, Гайнаўшчыны і Сямяціччыны. Агулам пунктаў продажы газет і часопісаў у гэтых ваколіцах налічваецца дакладна 187, у іх ліку ў гарадах: у Бельску — дваццаць сем, у Гайнаўцы — васемнаццаць і ў Сямяцічах — дванаццаць.

Як адбываецца продаж кожнага нумара некаторых газет і часопісаў ва ўсіх пунктах „Руху", ва ўсякіх кіёсках ды клубах? „Газеты вспулчэснай" прадаюць каля дзевяці з паловаю тысяч экземпляраў. „Кур'ера падляшскага" — чатыры тысячы дзвесце. Трэцяе месца па сваёй папулярнасці займае ў кіёскавай продажы наша „Ніва", якой рэгулярна прадаюць па адной тысячы і дзвесце экземпляраў. Вельмі слаба распрадаецца беластоцкі штомесячнік „Кантрасты" — усяго пяцьсот-шэсцьсот экз. „Трыбуны люду" прадаюць па васемсот экз., што зразумелае з увагі на яе цэнтральна-варшаўскі характар зместу. А ўжо цалкам мала, усяго па сорак два экземпляры купляюць людзі „Краябразы", што выдаюцца ў Сувалках.

Хочацца яшчэ з радасцю адзначыць папулярнасць „Нівы"! Гэта самы папулярны тут тыднёвік.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# Крывавая прысяга

У Гродне, у парку, на стромым беразе Нёмана, непадалёку ад славутай Каложы, узвышаецца помнік у выглядзе двух злучаных уверсе сярэднявечных мячоў. Ім гродзенцы ў 1978 г. ушанавалі 850-годдзе першага ўпамінання ў летапісе пра свой горад — старажытную Гародню. У падставе помніка знаходзяцца адлітыя з бронзы дзве манументальныя фігуры: тварам на ўсход стаіць красуня-дзяўчына ў беларускай народнай вопратцы, на захад жа, з-пад узнятага забрала, пільна глядзяць вочы беларускага рыцара-воіна, абапертага на магутны меч. Калі мне першы (і дагэтуль — адзіны) раз трапілася нагода стаць пад гэтым помнікам, мяне найбольш уразіла гэтая, уваскрэшаная з забыцця, магутная постаць беларускага рыцара з XII—XIV стагоддзяў. Мне ён здаўся ўвасабленнем баявых сяброў, спадзвіжнікаў князя Кейстута. Бо рэдка хто з нас усведамляе, што амаль усю Кейстутаву вайсковую сілу складала беларускае рыцарства Гарадзеншчыны, Слонімшчыны, Берасцейшчыны, Дарагічыншчыны. Якраз яно было абаронцам заходніх рубяжоў Старабеларускай дзяржавы!

Часы панавання Кейстута на нашых землях — мабыць, з 1331 года і да яго смерці ў 1382 годзе — гэта паўстагоддзя будавання і бітваў. Князь паклапаціўся пра абнаўленне і ўзмацненне старых крэпасцей і ўзвядзенне новых і то столькі, каб падчас нашэсця непрыяцеля ўсё насельніцтва магло схавацца за іх надзейныя сцены. Кожную крэпасць дзень і ноч няўсыпна сцерагла моцная стража. Абавязкам усіх вояў была некалькітыднёвая старажавая служба ў сваёй або ў пагранічнай крэпасці. А воем лічыўся кожны дарослы мужчына. Княжацкія цівуны дбалі, каб воі мелі адпаведную зброю, належна ёю валодалі ды дакладна ведалі, куды маюць падавацца і што рабіць у час ваеннай трывогі. Знакам пра з'яўленне непрыяцеля быў запалены ў крэпасці смольны стоўб, агонь або дым ад якога відаць было па ўсёй прыналежнай да крэпасці акрузе. Калі князь клікаў вояў у паход, то слаў ім „віці" — спецыяльны пучок вяровак або дубцоў, які маланкава перадаваўся з аднае мясцовасці ў другую.

Крыжацкія храністы, намагаючыся апраўдаць паражэнні, або ўзвысіць перамогі свайго Ордэна, пішуць пра незвычайную шматлікасць Кейстутавага войска і тлумачаць гэта люднасцю вёсак ў яго княстве. Падаюць, між іншых, што ў паход з'яўлялася нават па 150 чалавек з аднаго сяла, хоць паклі-



 

## УСПАМІНЫ ПРА СВІСЛАЧАНЫ

Ёсць мясцовасць на Беласточчыне, якую завуць Свіслачаны. Мясцовасць як мясцовасць, нічога ў ёй асаблівага няма, калі глядзець на яе вачыма пабочнага чалавека. Аднак тым людзям, хто нарадзіўся і пражыў у Свіслачанах свае маладыя гады, яны яму самай прыгожай у свеце мясцінаю. Успомніш свае гады, што там праплылі, бы вада ў рацэ, і зробіцца сумна на душы і захочацца вярнуцца назад у Свіслачаны родныя. Каб пабываць у іх, паўспамінаць. І хоць можна даехаць туды цягніком або аўтобусам, аднак трэба абавязкова прайсці пару кіламетраў пешкі. Дарога вядзе праз палі і лес. Я памятаю, калі хадзіў гэтай дарогай у свае Свіслачаны, хоць пакінуў іх ужо надта даўно. І калі ўспомню цяпер тую дарогу ў родную мясціну, то робіцца мне яксьці цяплей у грудзях. Гэта ад Свіслачанаў пачаўся мой свет, там я сказаў свае першае ў жыцці слова, зрабіў першы ў сваім жыцці крок.

Свіслачаны немалыя, але людзей у іх цяпер мала. Людзі павыязджалі ў гарады, і выязджаюць надалей, не хочуць заставацца на бацькаўшчыне, на якой мала дабра, толькі работы тае ад усходу да заходу сонца. У горадзе, вядома, жыць лягчэй і цікавей, не так нудна, не манатонна. Але даўней і ў саміх Свіслачанах не было такой манатоніі, як цяпер. Людзі тады весяліліся, вечарамі збіралася моладзь, спявала, танцавала, у гульні ўсялякія гуляла. І беларускае нацыянальнае жыццё было, „Лявоніха“ прыязджала з канцэртамі, дзеячы беларускай культуры наведваліся. Летам маладыя сыходзіліся над рэчкай, а і ўзімку не было нудна — хадзілі на горку, званую Пятэльскі Роў, з якой каталіся на лыжах або санках. Хадзілі на канькax, за невялікі лясок Нійка, за якім ёсць лужок, лёд на ім у маразы. Ад Нійкі відаць нашу школу, і ўспамінаецца мне, як вучыліся мы ў гэтай нашай школе беларускай мове, пазнавалі нацыянальную культуру, беларусамі рабіліся.

**Бяльчанін** цяпер, са Свіслачан.

## З СУДА

Было іх трох: Здзісё і два Даркі. Аднагодкі. Кожнаму па 18 гадоў. У судзе гаварылі, што яны яшчэ на поўным утрыманні бацькоў. Бацькоўская ласка, вядома, не надта шчодрая, бо ў бацькоў не бывае, як правіла, столькі грошай, каб сваім сынкам даваць кожны месяц па некалькі тысяч злотых на іхнія выдаткі. А яны любілі вясёлае жыццё. Нарадзіліся і выраслі ў Беластоку, дзе столькі розных спакус! Дык каб папоўніць свае фінансавыя патрэбы, не ганьбавалі яны чужым дабром: ні прыватным, ні грамадскім.

Праўда, падчас судовага разбору іх справы, бясспрэчна даказана ім столькі, што вартасць прыватнай маёмасці, якую яны ўкралі, склала суму ледзь у 34720 зл., а грамадскай маёмасці накралі яны на 23186 зл. Адным словам, не разжыліся, калі раздзяліць усё гэта на трох. Аднак, злачынства ёсць злачынства, і суд адмерыў ім паводле заслуг:

— Здзіславу Б. — 3 гады і 6 месяцаў астрогу, 80 тысяч зл. штрафу, поўную канфіскацыю яго асабістай маёмасці і пазбаўленне грамадзянскіх правоў на працяг трох гадоў;

— Дарку Г. — на паўтарагадовае прабыванне за кратамі, канфіскацыю маёмасці і 30 тысяч зл. штрафу;

— Дарку С. — год турмы, канфіскацыю маёмасці і 50 тысяч зл. штрафу.

Адначасова суд рашыў аб'явіць гэты прыгавор у газеце за кошт засуджаных. У аб'яве падаюцца поўныя іхнія персанальныя дадзеныя. Я, аднак, рашыў тут іх прамаўчаць, бо ўсё ж гэта людзі маладыя і не так многа яны ўжо накралі.

Пракуратура дадаткова абвінаваціла гэтых трох юнакоў у тым, што яны супольна ноччу з 9 на 10 жніўня мінулага года найперш пабілі адну дзяўчыну, Малгоську, а затым яе згвалцілі. Суд, аднак, звольніў іх ад гэтага закіду. Пракурор не памірыўся з такім рашэннем суда і заявіў, што абскардзіць прыгавор у гэтай частцы. Дадам, што справа разглядалася ў Ваяводскім судзе ў Беластоку. Было гэта яшчэ 25 лютага г.г.

**Судамір Параграфчык**

## КРАЯВІД ПЕРАД ПАТОПАМ



На дне будучага Семянoўскага заліва. Фота Юркі Баброўскага.

калі ў войска толькі па адным чалавеку з сям'і! Што ж, каб насельніцтва было многа, трэба было доўгія дзесяцігоддзі клапаціцца пра спрыяльныя ўмовы для яго жыцця. Відаць, Кейстут належна дбаў пра сваіх падданых. Хоць часы не спрыялі гэтаму: каля 1350 года ў Еўропу прыйшла з Азіі зараза, „чорная смерць“ (джума), якая выкасіла чацвёртую частку насельніцтва, вымерлі пераважна маладыя людзі.

Неспрыяльна для Вялікага княства і асабліва для Любарта-Дзмітрыя пачалі складвацца адносіны з Польскім Каралеўствам. Пасля ўдачлівых паходаў у Галічыну і ў пайднёвую Польшчу пад уладай гэтага Гедымінавіча апынуліся землі ўсёй абшырнай былой Галіцка-Валынскай Русі. Аднак не надоўга. Кароль Казімір Вялікі, замірыўшыся ў 1343 г. з крыжакамі і ўладкаваўшы ў 1348 г. зацяжную вайну (пачалася яна ў 1345 г.) з Чэхіяй, увесь год старанліва рыхтаваўся да вялікага паходу, бышцам бы супраць Брандэнбургіі, але калі настаў сухі верасень 1349 г. усёй моцай вялікай арміі знячэўку ўдарыў на Любарта-Дзмітрыя. Вайна прыняла некарысны Гедымінавічу ход, і неўзабаве амаль уся тэрыторыя Галіцка-Валынскай Русі апынулася ва ўладанні Казіміра. Любарт-Дзмітрый утрымаўся толькі ў Луцкім княстве.

Аднак братэрская еднасць Гедымінавічаў не пакінула Любарта ў бядзе. На дапамогу яму паспяшаліся сыны загінуўшага ў бітве з крыжакамі Нарымунта-Глеба — маладыя і ваяўнічыя князі пінскія Міхал, Васіль і Юрый з вялікімі атрадамі воінства. Не засталіся абыякавымі да паражэння Любарта іншыя Гедымінавічы — з розных старон Вялікага княства ішлі яму з дапамогай шматлікія дружыны. Наступ Казіміравых войск быў паўстрыманы і хутка іх выбілі з Валыні. Але польскаму каралю ўдалося атрымаць падтрымку караля венгерскага ды дапамогу татараў і вайна зацягнулася.

Не меней дзейсна дапамагаў брату Кейстут. Разасланыя па сваім княстве „віці“ і сабраўшы са Слонімшчыны, Гарадзеншчыны і Дарагічыншчыны значную сілу, перш за ўсё вызваліў захопленыя Казіміравымі саюзнікамі — князямі мазавецкімі — Берасцейшчыну і горад Бярэсце, потым пайшоў у іх княствы. Перайшоўшы Віслу, здабыў і знішчыў Чэрск, Варшаву і ўсё Заходняе Мазоўша, ды кіраваўся ў глыб Польшчы. Ніхто не змог супрацівіцца яму. Казімір вымушаны быў забраць свае асноўныя вайсковыя сілы з Галіцка-Валынскай Русі і кінуўся з імі супраць Кейстута. Гонячы аграмадны палон і везучы вялікую ваенную здабычу, Кейстутавы войскі ўжо вярталіся дамоў. Казімір насціг іх 20 мая 1350 г. пад Сахачэвам. Страты па абодвух баках былі аграмадныя. Польскім войскам удалося адбіць палоннікаў ды значную частку нарабаванага дабра, але Кейстут і яго армія спакойна перапраўляліся цераз Віслу і вярнуліся на Пабужжа.

Вайна не суцішылася. Засланяючыся абавязкам дапамагаць

(Працяг на стар. 8)

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na reportaż pt. „W piątek przed podwyżką” zamieszczony na łamach tygodnika „Niwa” w dniu 3 maja 1987 r. uprzejmie informujemy, że w przedmiotowej sprawie przeprowadzone zostało postępowanie wyjaśniające.

Otóż w dniu 26.03.1987 podległy sklep w Bielsku Podlaskim był nieczynny do godz. 13.00 z powodu: trwającej przeceny części zamiennych, przyjmowania dostawy towarów z hurtowni rejonowej, porządkowania placówki po zakończonej inwentaryzacji nadzwyczajnej. Na drzwiach wejściowych umieszczona była wywieszka informująca, że sklep nieczynny z powodu inwentaryzacji do 30.03.87. Z uwagi na wcześniejsze zakończenie spisu z natury i szybkie przeprowadzenie przeceny sklep rozpoczął normalną sprzedaż już w dniu 26.03.1987 o godz. 13.00. Jak z powyższego wynika, wyłączenie z działalności podległej placówki handlowej w opisanym dniu było uzasadnione. W sprawie umieszczenia nieścisłej informacji na drzwiach wejściowych o przyczynie zamknięcia zwrócono personelowi sklepowemu stosowną uwagę. Za zaistniałą sytuację serdecznie klienta przepraszamy, polecając dalsze korzystanie z usług naszych placówek sprzedaży detalicznej.

Przedsiębiorstwo Państwowe „Polmozbyt” w Białymstoku
Z-ca Dyrektora d/s Handlowych
inż. Henryk Urban

— ✲ —

Poinformowanie czytelników „Niwy” z dn. 12.IV.1987 r. przez autora notatki „Siniawokaja Danusia” o spożywaniu denaturatu przez niektórych mieszkańców wsi Soce jest kolejnym publicznym głosem o problematyce występującego alkoholizmu w życiu społeczeństwa.

We względu na następstwa patologiczne alkoholizmu oraz znaczną powszechność nadużywania napojów alkoholowych, zgodnie z obligacją ostatniej ustawy poświęconej tej problematyce w gminie narewskiej przypisano istotną rangę jej realizacji. Tym potrzebom podejmuje się w miarę możliwości i społecznego zrozumienia szeroki front przedsięwzięć, mających przeciwdziałać rozwijaniu się tego zjawiska i kształtowaniu postaw abstynenckich, a mianowicie:

— działalność oświatowo-wychowawcza, upowszechniana przez szkoły, służbę zdrowia i inne organy społeczno-zawodowe,

— działalność profilaktyczna, jak i prewencyjna wielokierunkowa i wielopłaszczyznowa, realizowana głównie przez organ przestrzegania prawa i porządku publicznego, wspierana społecznymi siłami,

— społeczna działalność Terenowej Komisji do Spraw Przeciwdziałania Alkoholizmowi przy Naczelniku Gminy w Narwi. Komisja ta, poza rozpatrywaniem wniosków w sprawie nadużywania napojów alkoholowych, spełnia inicjująco-koordynacyjną i oceniająco-kontrolną rolę w całokształcie realizacji ustawy o wychowaniu w trzeźwości i przeciwdziałania alkoholizmowi na terenie gminy.

Efekty działania na tym polu nie są w pełni wymierne, a może nawet nie zawsze dostrzegane przez ogół społeczeństwa. To niemniej realizacja ustawowych zadań daje pewne wyniki pozytywne w eliminowaniu alkoholizmu jako zjawiska z zakładów pracy i z życia codziennego naszego społeczeństwa, chociaż występują przypadki podobne do opisanych w w/w notatce i nie są to zjawiska wyjątkowo sporadyczne i charakterystyczne tylko społeczeństwu gminy Narew.

Kształtowanie nowej obyczajowości, głównie w celu wyeliminowania z życia społeczeństwa tej patologii, w całokształcie jest zagadnieniem bardzo złożonym i zależnym od wielu czynników i kompetencji, w tym ponadgminnych, wymaga to także dłuższego okresu czasu.

Naczelnik Gminy Narew
inż. Michał Gacuta

 

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## У ГАСЦЯХ У НОВІКА-ПЕЮНА

Будучы ў Мінску, я наведала нашага добрага знаёмага, сябра дзяцей і на Беласточчыне Сяргея Новіка-Пеюна. Дзякуючы гэтаму чалавеку каля 4 тысяч дзяцей з Мінска і Беларусі пасябравала з дзецьмі Польшчы. За дапамогу ў навязвані сяброўства, за выхоўванне дзяцей у духу інтэрнацыяналізму і дружбы Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы ўзнагародзіла Сяргея Міхайлавіча Новіка-Пеюна Залатой ганаровай адзнакай ТППР.

Сяргей Новік-Пяюн мае шмат сяброў сярод дзяцей і дарослых. Дзверы яго кватэры заўсёды шырока расчынены для сяброў. Гэта не проста кватэра — гэта прыватны музей. Тут уся гісторыя нялёгкага і складанага жыцця чалавека, пісьменніка, мастака. Багатая і вельмі звязаная з гаспадаром бібліятэка, уласныя палотны карцін, велізарны асабісты архіў перапіскі з сябрамі, дакументы, часопісы.

Сяргей Міхайлавіч быў вельмі ўзрушаны нашай сустрэчай. Я — таксама. З такім чалавекам правесці дзве гадзіны — гэта нязмерна мала. А на больш мне не дазваляў час — план маёй пабыўкі ў Мінску быў вельмі насычаны мерапрыемствамі і разлічаны да гадзіны. Сяргей Міхайлавіч, пастаянны чытач і карэспандэнт „Зоркі“, перадаў усім чытачам „Зоркі“ свае гарачыя прывітанні і падарыў „Зорцы“ дзесяць экземпляраў сваёй кніжачкі „Зорачкі ясныя“ для нашых чытачоў. А мне асабіста, рэдактару „Зоркі“ — вельмі патрэбную і рэдкую кніжку Янкі Саламевіча „Слоўнік беларускіх псеўданімаў“. У гэтай кніжцы я знайшла некалькі псеўданімаў і нашых беластоцкіх пісьменнікаў.

Сардэчна дзякуем за падарункі і жадаем Сяргею Міхайлавічу добрага здароўя і новых добрых кніжак.

**Яніна Чэрнякевіч**



### У КРЫЎЦЫ

Гэтай вясной у Крыўцы адбылася ўрачыстасць: пры мясцовай школе была адкрыта гарцоўка 125 гарцэрскай дружыны ім. Кароля Сяірчэўскага. Гарцэры з Крыўца прыслалі „Зорцы“ прыгожае запрашэнне на драўлянай дошчачцы.

На здымку: на школьным панадворку ў Крыўцы.

**Фота Я. Чэрнякевіч**

## Вучнёўская творчасць

### ВЯСНА

Гэй, вясна!
Ты да нас прыйшла.
Мы цябе віталі
І з табой гулялі,
Песенькі спявалі.

Мы цябе чакалі,
Шчыра выглядалі.

(Працяг на стар. 10)

**Барыс Сачанка**

## УЛАДЗІК

Я ляжаў на печы, а маці перабірала на стале шчаўе, калі ў дзверы нехта асцярожна пастукаў.

— Галавою грукні! — крыкнула маці: яна, мусіць, забылася, што я дома і ніяк не магу гэтак дурэць.

Я засмяяўся, а маці, раззлаваная, падхапілася, каб пайсці адчыніць. Але не паспела. Клямка бразнула, і мужчынскі голас гукнуў:

— Гаспадынька, да вас можна?..

— Заходзьце, заходзьце, калі ласка... Я думала, гэта сын. Ён у мяне такі ўжо шыбенік, забаўку знайшоў — у дзверы стукаць, — апраўдвалася маці.

Па падлозе загрукалі цяжкія боты з падкоўкамі, і праз хвіліну я ўбачыў чалавека, што так нечакана завітаў да нас. Гэта быў салдат з вельмі шырокім ілбом і калматымі, як ячменныя каласы, брывамі. За руку ён вёў хлапчука ў падранай кашулі, вымурзанага ў сажу болей за камінара.

Маці змахнула трапкачом лаўку і сказала:

— Сядайце, чаго ж вы ў парозе сталі...

— Ды нам заседжвацца і няма калі, гаспадынька, — прабасіў салдат. — Мяне цягнік чакае, на фронт едзем... А вось малога дзе падзець — не ведаю...

— Ваш? — спытала маці.

— Не, не мой.

Лыпаючы неяк дзіўна вейкамі, салдат расказаў, што хлапчука знайшлі сёння ў тэндары качагары. Едзе шукаць маці — яна згубілася, калі звакуіраваліся на ўсход. Словам, наляцелі фашысцкія самалёты, разбамбілі эшалон бежанцаў. І ўсё такое... Ні свайго прозвішча, ні вёскі, дзе нарадзіўся, не памятае...

— І я проста не ведаю, што з малым рабіць, — развёў рукамі салдат. — У дзіцячы дом аддаць, але ж у мяне няма часу... На фронт едзем...

— Дык што ж тут такога, — замітусілася маці, кінуўшы ў запечак трапкач. — У мяне ж вунь на печы такі самы ляжыць, акурат яму пара... Будзе і жыць у нас... Стась, ану злазь з печы...

Я ўмомант апынуўся на падлозе.

Хлапчук бліснуў на мяне спадылба шэрымі і круглымі, як у ката, вачыма і насупіўся.

— Як жа хаця цябе зваць? — схілілася над ім маці.

— Уладзік, — прамармытаў хлапчук.

— Дык ты, Уладзік, радуйся, што трапіў да нас. Тваю маці мы знойдзем... Вось сёння ж напішу ёй пісьмо, а праз які тыдзень яна і прыедзе... Толькі ты не ўцякай ад нас. А то прыедзе

(Працяг на стар. 10)

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Авяр'ян Дзеружынскі

### ВЕРАБЕЙЧЫК

Плача-плача
Верабейчык,
Сам маленькі,
Як каменьчык,
Шараваценькі,
Рудаваценькі:
— Што за гора,
Што за ліха,
Дзе матулька-верабʼіха,
Хто мне есці дасць
І піць,
Як галоднаму мне жыць?..
Цік-чывяк,
Цік-чывяк —
Хоць бы трапіўся
Чарвяк!..
Прыляцела
Верабʼіха:
— Ціха, сынку,
Ціха, ціха...
Што ты скачаш,
Што ты плачаш,
Вось чарвяк,
Хіба не бачыш!..
Зацілікаў
Верабейчык,
Сам маленькі,
Як каменьчык,
Дзюбай-носам
Пакруціў:
— Вельмі смачна,
Ціў-ціў-ціў!
Толькі мала,
Вельмі мала...
Прынясі
Яшчэ мне,
Мама!



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“

Я хачу расказаць табе аб кніжцы, якую мы чыталі на ўроках беларускай мовы. Напісаў яе Янка Маўр, а называецца „Палескія рабінзоны“.

Галоўнымі героямі гэтай аповесці з'яўляюцца два хлопчыкі, Віктар і Мірон. Яны апынуліся на бязлюдным востраве без нічога. Нават бандыты не змаглі іх перамагчы. Хлопцы былі адважныя і выратавалі жыццё чалавеку.

З іх усіх прыгод найбольш падабалася мне прыгода з бабровымі хаткамі. Там хлопцы знайшлі нож і зброю, вельмі ім патрэбную.

У час тых усіх прыгод на Палессі хлопцы спатыкалі многа звяроў і раслін: цецерукоў, баброў, заячую капусту, брушніцы, смаршчкі і шмат іншых. Прырода там вельмі багатая. Мірон з Віктарам у такую вельмі харошую пагоду хадзілі наглядаць баброў. Нават раз хацелі аднаго бабра злавіць, але ім не ўдалося.

Хлопцам трэба было выбрацца з гэтага вострава, але яны не ведалі як. Дапамог ім таварыш

(Працяг на стар. 10)



 

